НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЙ

# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 18 (479) | ГОД X | 2 МАЯ 1965 г. | ЦАНА 60 гр


## КАРЭСПАНДЭНТЫ

У нашай краіне на пачатку мая адзначаюцца «Дні кніжкі, друку і радыё». Гэтыя дні «Ніва» адзначае ўжо дзесяты раз. Дзесяты год «Ніва» нясе да мас беларускае слова, ідэі Фронту адзінства народу, у тым ліку і нашага Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

За гэты перыяд існавання «Нівы» наступіла стабілізацыя яе чытачоў, узрос яе выхаваўчы ўплыў на беларускае насельніцтва, пашырылася сувязь з масамі. Аб гэтым сведчыць той факт, што на адрас «Нівы» (у тым ліку «Зоркі») кожны месяц прыходзіць больш 600 лістаў, што наш часопіс мае больш 100 сталых карэспандэнтаў, што кожны месяц у 4-х або 5-ці нумарах «Нівы» больш 50-ці публікацый — гэта матэрыялы напісаныя не журналістамі нашай газеты, што лік карэспандэнтаў з кожным годам павялічваецца. Гэтае апошняе нас асабліва цешыць, бо мы ведаем, што абыякавы чалавек не возьмецца за пяро, што людзей прыводзяць у газету актыўныя адносіны да жыцця, што ім не ўсё роўна добра ці дрэнна робіцца ў іх асяроддзі, або ўладжваюцца тыя ці іншыя справы, пытанні, праблемы.

Карэспандэнты — гэта людзі з высакародным гарачым пачуццём справядлівасці, уражлівыя на зло, на крыўду. Яны таксама пішуць да «Нівы» аб радасцях і клопатах, аб дасягненнях і недахопах паасобных вёсак, грамад, мястэчак, паасобных радаў нарадовых і масавых арганізацый.

У гэтым артыкуле ўспомнім толькі аб некаторых нашых карэспандэнтах.

Сяргей Крэйза — старшыня Мілейчыцкага гуртка БГКТ, сакратар Сямяціцкага аддзела БГКТ, член Галоўнага праўлення БГКТ; Язэп Козак — дзеяч рад нарадовых і працаўнік прэзідыума ПРН у Гайнаўцы; Сяргей Філіпюк — настаўнік з Паўлаў, маладзёжны дзеяч, член праўлення Бельскага аддзела БГКТ; Уладзімір Хомік — былы капэзэтбовец, актывіст грамады Шудзялава, дзеяч вёскі Слоя на Сакольшчыне; Васіль Дзун — пенсіянер, былы настаўнік і былы грамадавец, член праўлення Гайнаўскага аддзела і ГП БГКТ.

Многа карэспандэнтаў, прадстаўнікоў моладзі, як Мікола Панфілюк, Міхась Самасюк, Мікола Лаўрэшчук, Уладзімір Азябла, Янка Міхалюк і іншыя.

Пастаянны рост ліку карэспандэнтаў, штораз вышэйшы ўзровень іх карэспандэнцый і заўваг, больш смелая крытыка сведчаць найлепш аб тым, што працоўныя масы чуюцца гаспадарамі сваёй краіны. Па меры росту культурнага ўзроўню насельніцтва, па меры нашых дасягненняў у галіне сацыялістычнага выхавання лік карэспандэнтаў пастаянна расце. Гэта адзін з паказчыкаў перамен, якія здзяйсняюцца ў нас, а таксама паказчыкам сталага прагрэсу. Гэта шырокі ўдзел мас у рэдагаванні сваёй газеты.

М. Хмялеўскі

## Зуладай запанібрат

Можна было б пачаць ад цытатаў Леніна, які асноўным залогам народаўладства лічыў пастаянную кантролю народа над паасобнымі органамі ўлады.

Выбары да розных дзяржаўных установ у менш ці больш дэмакратычнай форме існуюць зараз у большасці краін свету. Рэч у тым, што ў буржуазных краінах кантакт кандыдатаў да рознага тыпу ўлад з выбаршчыкамі найчасцей канчаецца з днём самых выбараў. Пасля выбараў увайшоўшыя да ўлад прадстаўнікі розных арганізацый і партый не патрабуюць больш лічыцца з патрабаваннямі выбаршчыкаў, не патрабуюць здаваць перад імі справы са свае працы, прадстаўнікі гэтыя стаюцца «гаспадарамі сітуацыі» аж да наступных выбараў, калі іншыя людзі пачнуць ізноў ад пачатку: ад ашукоўвання мас і абяцанняў, з якіх расплачвацца нікому тут няма патрэбы.

Зусім іншая справа ў нас.

У самім прынцыпе народнай улады ляжыць тэзіс, што выбаршчыкі павінны мець права і магчымасць пастаянна кантраляваць працу выбраных імі ўлад. У практыцы кантроль гэты найчасцей мае форму сустрэч радных са сваімі выбаршчыкамі. Пакажам гэта на прыкладзе Гайнаўскага павета.

Сустрэчы радных так павятовай рады, як і рад грамадскіх з насельніцтвам павета адбываліся тут праз увесь час выконвання радныміі сваіх абавязкаў. Сустрэчы радных грамадскіх рад нарадовых адбываюцца паводле планаў апрацаваных гэтымі радамі. У кожнай грамадзе — па некалькі такіх сустрэч у месяц. Радныя на агульных сходах вёскі даведваюцца аб пажаданнях і патрабаваннях насельніцтва, а потым абмяркоўваюць гэтыя справы на пасяджэннях грамадскай рады. За мінулыя чатыры гады ў Гайнаўскім павеце адбылося 2888 такіх сустрэч. Такім чынам на тэрыторыі ўсяго павета ў кожны месяц адбываецца каля 60 сустрэч радных грамадскіх рад з насельніцтвам.

Не менш карысныя для правільнай дзейнасці ўлад кантакты радных павятовай рады з насельніцтвам паасобных вёсак. Адбылося тут 468 такіх сустрэч. Амаль пры кожнай сустрэчы сяляне складаюць на рукі раднага павятовай рады мноства рознага тыпу прапаноў, пажаданняў і скарг. Усе яны дакладна разглядаюцца паасобнымі аддзеламі павятовай рады, а тыя, якія ПРН не датычаць, адсылаюцца да зацікаўленых устаноў. Для прыкладу: на сустрэчы, якая адбылася 1 студзеня бягучага года, раднай павятовай рады Марыі Іванюк з насельніцтвам вёскі Прыбудкі ў грамадскай радзе Ласінка, насельніцтва гэтай вёскі склала на рукі раднай 7 рознага тыпу прапаноў. Знайшліся там пастулаты ў адрас Гмінний спулдзельні, кіраўніцтва меліярацыйных прац, млечарскай спулдзельні Павятовага аб'яднання сельскагаспадар-

(Працяг на стар. 5)



Язэп Зайцаў «Лясная дарога».

Нашы аўтары



## АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

З Аляксеем Карпюком нашы чытачы даўно знаёмы. У 1959 годзе друкавалася ў «Ніве» яго аповесць «У маладыя гады», якая выклікала сярод нашых чытачоў вялікае зацікаўленне. Падзеі ў аповесці разгортваліся ў былой Заходняй Беларусі. Кніжка паланіла нас нейкім свежым подыхам у трактоўцы падзей і людскіх суадносін. Адчувалася, што ў аповесці многа перажытага самім аўтарам. Аповесць потым выйшла асобнай кніжкай п.з. «Данута» і здабыла агульнасаюзнае прызнанне. Перакладалася на некалькі моў.

Новая аповесць А. Карпюка «Пушчанская адысея» апрача якасцей папярэдняй мае для нас асаблівую прыманку. Падзеі, якія ў аповесці адбываюцца, не літаратурная фікцыя; людзі, якія ў аповесці выступаюць, не выдуманыя аўтарам героі. Хоць гэта мастацкі твор, усё тое, што апісана ў аповесці, было. І было не за трыдзевяцю землямі, а ў нас, на нашай Беласточчыне. Сярод нас і жывуць героі «Пушчанскай адысеі». Такая аповесць для кожнага аўтара вялікая проба. Аляксей Карпюк вытрымаў яе на выдатна. Аповесць прысвячае аўтар сваім баявым сябрам — былым партызанам атрада імя Кастуся Каліноўскага. А. Карпюк, які быў камандзірам гэтага атрада, паказвае нам будні партызанскага жыцця. Паказвае ярка, без непатрэбнай прыўзнятасці і нуднай шэрасці. Не абмінае вострых канфліктаў і адмоўных з'яў. Прытым аповесць насычана так тыповымі беластоцкімі рэаліямі, што нам, беластачанам, яна асабліва па душы. А людзі, мясціны! Колькі тут любві! Так мог напісаць толькі пісьменнік, для якога гэта зямля з'яўляецца роднай. Яно так і ў сапраўднасці. А. Карпюк нарадзіўся і вырас у Страшаве (Беластоцкі павет), і хоць цяпер жыве ў Гродне, не забывае ён родны кут і славіць яго ў сваіх творах. За гэта яму наша ўдзячнасць і пашана.

На здымку Аляксей Карпюк у канферэнцыйным зале Дома прафсаюзаў у Беластоку ў час сустрэчы нашай грамадскасці з былымі партызанамі (1964 г.).

Фота Я. Рыбінскі

Чытайце на стар. 6 «Пушчанскую адысею».

 



Так выглядаў Мінск пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

# ГАВОРАЦЬ ФАТАГРАФІІ

## 2 УКЛАД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА У РАЗГРОМ ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

# РУКІ ВАРВАРАЎ

Вайна адняла ў беларускага народа звыш паловы яго нацыянальнага багацця. Фашысцкія варвары спалілі і разбурылі ў Беларусі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, у тым ліку Мінск, Віцебск, Гомель, Оршу, Полацк, Жлобін, Рагачоў. Яны спалілі 9200 вёсак, знішчылі звыш дзесяці тысяч прамысловых прадпрыемстваў, зруйнавалі і разграбілі ўсе калгасы і саўгасы рэспублікі.



Вёска Вітунічы Бягомльскага раёна Мінскай вобласці, разбураная гітлераўскай авіяцыяй.



Абяздоленыя вайной на дарогах Беларусі.



Вёска, падпаленая фашыстамі пры адступленні (1943 г.)



Telegramm Deutsche Reichs GEPR ATPB GEPRUEFT ATPA 71 =
DOPPELD U GREIFSWALD F 33/32 25 0900 =
Minsk (Ostland)
DW = GENERAL KOMMISSAR FUER
WEISSRUTHENIEN MINSK =
AUFTRAGE DES OSTMINISTERIUMS ERBITTE UMGEHENDE
TRANSPORT DER VORGESCHICHTLICHEN FUNDE AUS DEM HISTORISCHEN
STAATSMUSEUM DURCH PAL DR HAUPT = ENGEL BEAUFTRAGTER FUER
VOR UND FRUEHGESCHICHTE IM OSTLANDE +

Копія тэлеграмы на імя акупацыйных улад, якая сведчыць аб разграбленні гітлераўцамі каштоўнасцей беларускага народа.




Маім баявым сябрам — былым байцам і камандзірам партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага.

### Я ЎЦЯКАЮ З НЯВОЛІ

Да канала прымыкае кавалак поля. На ім размяшчаюцца прычалы, цагельня, жылы дом штутгофскага начальніка лагера смерці, склады гатовай прадукцыі. Непадалёку мы здабываем гліну, тут працуе «Гопегіль» — брыгада ў 120 арыштантаў.

Раніцой ланцуг эсэсаўцаў акружае межы ўсяго ўчастка, «Гопегіль» прапускаюць у сярэдзіну, мы бяромся за работу і да вечара падпарадкаваны толькі нашаму обер-капо Адзі Мэркеру, камандзіру варты ды обер-майстру Максу. Асуджанага на бестэрміновае зняволенне ціродьскага бандыта Мэркера мы цікавім толькі тады, калі паблізу начальства. Камандзіры варты кожны раз мяняюцца, на работу арыштантаў глядзяць праз пальцы.

Болей дастаецца нам ад обер-майстра Макса. Гэты сухі, зморшчаны немец з намі цэлы дзень. Работа на цагельні нескладаная, арыштанты даўно ведаюць сваю справу, але стары службіст усюды суне свой нос і няма ад яго жыцця. Ён не кране нікога і пальцам, падкажа толькі эсэсаўцу і будзе спакойна глядзець, як той ломіць косці арыштанту. Шчасце наша, што ў Макса тут яшчэ і цэлая гаспадарка; обер-майстар вымушаны адхіляцца то да кароў, то да свіней. Вось і цяпер немец чамусьці накіраваўся ў поле.

За жылым будынкам грузіць на параход цэглу мой брат, Валодзька. Яго сябры ўжо мяняюць хлеб на тытунь. Згаворваюцца красьці ў Макса цукровыя буракі. Дзеляцца -авінамі.

За галоўным корпусам я накідаю гліну ў ваганеткі, Валодзька гэта ведае. І хоць бачыліся мы гадзіну назад, спраў у брата няма, яму хочацца да мяне з азарту. Ён насцярожана азіраецца. За лазой усё так жа пускае па вадзе кругі і аб нечым марыць унтэр. Ля гурбаў сухіх бадылёў, абняўшы аўтаматы, сумуюць эсэсаўцы. Макс падыходзіць да мяжы, нагінаецца над гурбай.

— Я зараз! — кажа Валодзька напарніку і, прыгінаючыся, бяжыць ад прычала.

Дарогу яму перасякаюць рэйкі. Каманда «Тонберг» піхае па эстакадзе ваганеткі з палівам для печаў. Чорны ад вугальнага пылу хлапец адстае ад ваганеткі. У Штутгофе ён усяго тыдзень, трапіў да нас за ўцёкі з лагера палонных. Калі пасля работы надзявае паласатую куртку, то на яго плячах і грудзях красуюцца чырвоныя колы з чорнымі плямамі ў цэнтры. Валодзька знаёміцца з людзьмі хутка і ведае, што новенькага завуць Мікалаем. Хлапец штосьці крычыць майму брату, але з-за гулу нічога не разабраць. Мікалай паказвае ў поле. Брат зыркае туды. З гурбы бадылёў валіць густы белы дым. Макс пускае дымавую завесу.

Але хіба эсэсаўцы стаяць для парада? Брат паціскае плячыма, спяшыць далей. Ён памятае, як летам два арыштанты залезлі ў камендантаў басейн, высунулі з вады пасы, прыкрыліся блюшчам. Трэці папрасіў засыпаць яго пяском, пакінуць дзіркі для паветра. Яны намерваліся ўвечары, калі здымуць ланцугі варты, вылезці са сховішчаў і ўцячы. Праз дзесяць хвілін пасля трывогі сабакі з «гундабатальёна» вывалаклі іх і разарвалі на кавалкі.

2.

Валодзька да мяне не паспявае дабегчы. Чуе — за ім нешта здарылася! Кідаецца назад і абмірае ад жаху. Збітая ў тлум каманда «Тонберг», перавернутая ваганетка, рассыпаны вугаль. Курчыцца ад болю Мікалай. Замест правай ступні ў яго — жудасны абрубак. Кантрасна выдзяляецца белізна аголеных касцей і чырвань крыві. Пшыхае вызваленая з катлоў пара, спыняюцца машыны. У цішы, якая раптоўна наступае, чуваць цяжкае дыханне пакалечанага і паспешлівае тупанне ног.

— Чым яго?

— Лёра сарвалася з ланцуга!

Праз вугальны пыл відаць, як пашарэў твар няшчаснага. У вільготных вачах — пакута і бяссільная роспач. Хлапец ведае, што яго чакае, аднак не стогне, не скардзіцца. Тут свае законы. За дапамогу, спачуванне пераламаюць нагу і табе. Каб быў паблізу Макс або які-небудзь эсэсавец, баяліся б нават падысці да месца здарэння. Цяпер жа дзве пары рук падхопліваюць Мікалая, адвалакваюць пад дом, кладуць на рэдкую траву, падсоўваюць пад галаву сумку.

Над месцам, дзе яго паклалі, з лёскатам адчыняецца акно. У раме з'яўляецца рыжая маладзіца ў сінім халаціку, спалохана глядзіць уніз.

— Езус Хрыстус! — ускрыквае і знікае ў пакоі.

Праз секунду яна паяўляецца ўжо ў дзвярах з бярэмам ваты і бінтоў. Гэта — жонка начальніка лагера смерці, гаўптштурмфюрэра войск СС, Траўгута Майе-



 

